

Жыве Беларусь!

# Народная газета

Орган Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

№34(547) 17 лютага 1993 г. Серада. Выдаецца з кастрычніка 1990 года на беларускай і рускай мовах. Тыраж 607902 экз. Кошт у розніцу — 4 руб.


## ФАКС

### Беларусь сэкономит миллиарды

**Как стало известно корреспонденту БелаПАН, премьер-министр России Виктор Черномырдин подписал соглашение, касающееся поставок газа в Беларусь.**

Согласно этому документу, в республику будет поставлено 16 млрд. кубометров российского газа без налога на экспорт. В связи с этим Беларусь сэкономит 160 млрд. рублей.

Виктор ФЕДОРОВИЧ.

### Нас будут учить на средства ООН!

**Восточная Европа, а вместе с ней и Беларусь продолжают оставаться для международных организаций зоной особого внимания.**

В ООН, например, разработали программу технического и экономического сотрудничества с нашими государствами.

Об этом проинформировал руководство Госкомитета Республики Беларусь по внешним экономическим связям представитель ООН Мэтью Кахане. В ходе его переговоров с главой нашего внешнеэкономического ведомства Владимиром Радкевичем были определены конкретные формы помощи ООН республике. Это и предоставление технических средств для обмена информацией, и экспертиза концепции внешнеэкономической деятельности Беларуси, и подготовка квалифицированных кадров для Беларуси с помощью и на средства ООН, ЮНКТАД, ГАТТ, КЭС, Всемирного банка и других международных организаций.

Ирина МАЛИНОВСКАЯ.

### Борис Ельцин откладывает переговоры и уходит в отпуск

**В связи с отпуском российского президента Б.Ельцина отложены переговоры делегаций России и Татарстана, которые должны были состояться вчера.**

На этом раунде российско-татарстанских переговоров стороны предполагали обсудить проект договора о разграничении и взаимном делегировании полномочий, а также о двустороннем соглашении по вопросам экономики и охраны окружающей среды. Помимо этого, президенты России и Татарстана намерены были обсудить вопрос об объемах экспортируемой Татарстаном нефти за рубеж и в Россию.

Алесь СВЕТЛАНИЧ.

### Свистать всех наверх!

Первый корабль, на котором поднят флаг Вооруженных Сил Республики Грузия, в торжественной обстановке спущен на воду в городе Поти.

### Вкратце

**Председатель Верховного Совета Беларуси Станислав Шушкевич направил поздравительную телеграмму Альгирдасу Бразаускасу в связи с избранием его президентом Литовской Республики.**

Отмечается желание белорусского народа и далее поддерживать прочные связи с республикой-соседкой.

Кстати, по приглашению президента Литовской Республики Альгирдаса Бразаускаса Станислав Шушкевич отбыл во второй половине дня 16 февраля в Вильнюс, где примет участие в праздновании 75-летия Национального дня Литвы.

❑

**Министерство путей сообщения России до конца первого квартала этого года планирует во взаиморасчетах со странами Содружества перейти на международные нормы.**

В новые тарифы будут включены затраты на содержание пути, расход электроэнергии, износ подвижного состава. Пока же в стоимость проезда входят только зарплата проводников, стирка постельного белья и ремонт вагонов.

❑

**Со вчерашнего дня правительство Москвы повысило плату за проезд в городском транспорте и метро.**

Стоимость поездки на наземном транспорте теперь 4 рубля, а в метро — 6 рублей.

### Шукшин будет в нашем Верховном Совете

**На очередном пленуме Совета ветеранов войны, труда и Вооруженных Сил Республики Беларусь избран новый депутат Верховного Совета республики от ветеранской организации — взамен выбывшего.**

Им стал Валентин Степанович Шукшин — бывший военный летчик, житель Гомеля.

Иван ТИТОВ.

### Звиад Гамсахурдиа не собирается эмигрировать

**Бывший президент Грузии З.Гамсахурдиа опроверг сообщения о том, что он в ближайшее время выедет из Чечни на постоянное жительство в одну из западных стран.**

Гамсахурдиа заявил, что подобные сообщения являются дезинформацией, распространяемой нынешним грузинским правительством. Бывший президент Грузии считает, что нынешние власти в Тбилиси пытаются дискредитировать его, выдавая каждую поездку за границу как попытку эмигрировать.

Радио "Свобода".

### Покой им только снится

**В Боснии и Хорватии продолжаются бои.**

Вчера утром происходили артиллерийские дуэли между сербскими и хорватскими силами.

Между тем сербские войска продолжают блокировать продвижение автоколонны ООН с грузом продовольствия и медикаментов для мусульман восточной Боснии.

Сергей ЗУБРА.

### Свобода махать кулаками?

**Народный депутат Беларуси, главный редактор газеты "Свобода" И.И.Герменчук был избит в поселке Колодищи Минского района.**

Инцидент произошел вблизи магазина N 10. Есть сведения, что народного депутата избил работник районной инкассации. Обстоятельства дела выясняются.

### Спорт-экспресс

На чемпионате мира по биатлону в болгарском городе Боровец мужская сборная Беларуси завоевала четвертое место в эстафете 4х7,5 км, женская — пятое.

❑

Золотые медали завоевали белорусские биатлонисты в эстафете 4х7,5 км, выступая в Закопане на всемирной зимней Универсиаде.

❑

Продолжают свое турне по Южной Америке футболисты национальной сборной Беларуси. Очередной матч с колумбийским клубом "Медельин" завершился вничью — 0:0.

❑

По результатам опроса газеты "Физкультурник Беларуси" лучшим белорусским спортсменом января этого года назван конькобежец Игорь Железовский. Лучшая команда — "Политехник" (гандбол). Сильнейшая сборная — по таэквондо.

### Взрывоопасные дела немецких компаний

**Правительство ФРГ помешало двум немецким компаниям выполнить контракт по продаже оборудования для ливийского химического предприятия.**

Как заявил в Бонне представитель правительства, две компании имели официальное разрешение на поставку Ливии кабеля и труб, но не знали, что это оборудование пойдет на завод по производству химического оружия.

Станислав ВЕРИГА.

Выпуск подготовлен по сообщениям корреспондентов "Народной газеты", агентств ИТАР—ТАСС, Белинформ, БелаПАН и РИД.



*Гутарка ў Нью-Йорку*

# "Вельмі няпростая справа — выпрацоўваць знешнюю палітыку"

## Інтэрв'ю пастаяннага прадстаўніка Беларусі пры ААН Генадзя Бураўкіна галоўнаму рэдактару "Народнай газеты" Іосіфу Сярэдзічу

**— Генадзь Мікалаевіч, неяк нязвычна браць інтэрв'ю ў прафесійнага журналіста. Здаецца, зусім нядаўна Вы працавалі ў рэспубліканскім друку, з'яўляліся ўласным карэспандэнтам аднаго з маскоўскіх выданняў, затым старшынёй Дзяржаўнага камітэта па радыё і тэлебачанні. Але ж час ідзе. І вось вы ўжо трэці год тут, у Нью-Йорку, на пасадзе пастаяннага прадстаўніка Беларусі пры Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. А таму гаворка будзе не з Бураўкіным-журналістам, а з Бураўкіным-дыпламатам...**

— На маю думку, пэўная блізкасць журналістыкі і дыпламатыі была заўсёды. Той, хто сур'ёзна звязаны з радыё, тэлебачаннем, прэсай, заўжды трошачкі дыпламат. Гэта значыць, ён павінен, як кажуць бюракраты, вылічваць варыянты развіцця падзей, памятаць аб тым, наколькі яго дзеянні паспрыяюць або, наадварот, пашкодзяць інтарэсам справы.

Менавіта вопыт, набыты ў журналістыцы, дапамог мне асвоіцца ў новай ролі. Хаця быць у новай ролі цяжка. І першая мая цяжкасць, якая да гэтага часу "жыве" са мной, — гэта няведанне замежнай мовы, а кажучы канкрэтна, англійскай, якая з'яўляецца ў Арганізацыі Аб'яднаных Нацый рабочай. Рабочых моў, калі казаць абсалютна дакладна, тут некалькі: і французская, і кітайская, і арабская, і руская, і іспанская, але актыўная рабочая мова — англійская.

У такой тонкай і важнай справе, як дыпламатыя, неабходна часам весці гаворку сам-насам, без сведкаў. І тут мне, на жаль, не хапае мовы...

**— Прабачце, але, наколькі мне вядома, нягледзячы на некаторыя цяжкасці, у Вас усё ж такі склаліся добрыя адносіны з многімі дыпламатамі, якія працуюць пры Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. З павагай адносяцца да Вас, да ўсяго калектыву, да нашай рэспублікі як дэлегацыі суседніх краін, так і больш далёкага замежжа.**

— На першую частку вашага пытання мне наогул адказваць цяжка. Пра гэта вы лепш пацікаўцеся ў іншых. Што датычыцца рэспублікі, то сапраўды цікавасць да Беларусі за апошнія гады прыкметна вырасла. Звязваю гэта ў першую чаргу з той пазіцыяй, якую Беларусь займае ў дыпламатычным свеце. Пазіцыя ў нас спакойная, узважаная, пазіцыя людзей, якія не спяшаюцца лезці ў бойку і хацелі б усё вырашаць разумна.


(Заканчэнне на 3-й стар.)


*Пастанова Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

## Аб утварэнні Міністэрства транспарту і камунікацый Рэспублікі Беларусь

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь пастанаўляе:

Утварыць Міністэрства транспарту і камунікацый Рэспублікі Беларусь, скасаваўшы Міністэрства транспарту Рэспублікі Беларусь.

У сувязі з гэтым у структуры Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь, зацверджанай пастановай Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад 11 ліпеня 1990 года (ЗЗ БССР, 1990 г., №21, арт. 366, арт. 369; Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, 1991 г., №10(12), арт. 116; Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, 1992 г., №6, арт. 108), словы "Міністэрства транспарту Рэспублікі Беларусь" замяніць словамі "Міністэрства транспарту і камунікацый Рэспублікі Беларусь".

Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.ШУШКЕВІЧ.

5 лютага 1993 г.

г.Мінск.

№2172-XII

*Пастанова Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

## Аб назначэнні міністра транспарту і камунікацый Рэспублікі Беларусь

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь пастанаўляе:

Назначыць міністрам транспарту і камунікацый Рэспублікі Беларусь ШКАПІЧА Сцяпана Ільіча.

Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.ШУШКЕВІЧ.

5 лютага 1993 г.
г.Мінск.
№2174-XII

*Рэзананс*

# З пункту гледжання намёкаў

## (Наконт артыкула экс-народнага дэпутата СССР Аляксандра Дабравольскага ў "Народнай газеце" ад 13 лютага "Мы вас падтрымаем, кажа ўрад, калі навучыцеся як след нам падпяваць")

Пра што, уласна, размова? Паважаны экс-дэпутат у жаданні ўрада падтрымаць найбольш таленавітыя калектывы тэлестудый і праграм убачыў намёк на тое, што не таленавітых, маўляў, падтрымліваць збіраюцца, а падпявал. Ну, не верыць гэтаму былы дэпутат, і, як кажуць, Бог суддзя.- Тым больш што аб'яўлены і апублікаваны ў друку конкурс "Адкрыты тэлеканал", першы этап якога пройдзе непасрэдна на 8-м канале ТБ з улікам думак тэлегледачоў.

Не прамінуў цяперашні партыйны лідэр выкарыстаць модны ў палітаргументах "джэнтльменскі набор": ушчыпнуць прэм'ера, напалохаць манапалізацыяй прэсы, заадно пераблытаць інтарэсы дзяржавы "з інтарэсамі ўрада".

Пра тое, што ў рэспубліцы функцыяніруе больш за паўтысячы сродкаў масавай інфармацыі, а дзяржава толькі ў 1993 годзе выдзеліла на падтрымку нацыянальнай прэсы больш за 1 мільярд рублёў, аўтар не ўпамінае. Не гэта галоўнае і не ў гэтым справа...

"А тым часам словы кіраўнікоў у адносінах да прэсы на дзіва супадаюць са справамі", — усклікае аўтар. Так, супадаюць менавіта словы і справы, і грош цана таму ўраду, у якога было б усё наадварот...

Дарэчы, няхай будзе вядома паважанаму аўтару, што на мэтавым фінансаванні Саўміна знаходзяцца толькі газеты "Звязда" і "Рэспубліка". А "Народная газета" ("якая не манапалізавана Саўмінам"), утульна размясціўшыся ва ўрадавым будынку на плошчы Незалежнасці, пакуль што не збіраецца яго пакідаць і поўнасцю пакрывае свой нізкі падпісны кошт тымі ж дзяржаўнымі датацыямі.

Ну, а што датычыць так званага ўплыву "партыі Саўміна", то варта, напэўна, задумацца, адкуль такія стабільныя тыражы ў "манапалізаванай прэсы". Відаць, падпісчыкі лепш ведаюць, за якую "партыю" галасаваць (або якую "партыю" выпісваць). Гэта, зрэшты, іх справа і іх права.

І ў заключэнне, бадай, згодзімся з аўтарам у тым, што "калі далей будзем сядзець і чакаць, атрымаем тое, што заслужылі". Тым больш калі адзін з сошкай, а сямёра з "палітычнай" лыжкай. Намёк, спадзяюся, зразумелы.

Сяргей ПАВАЛЯЕЎ.

**<u>Ад рэдакцыі</u>. Пакінем убаку аргументаванасць довадаў шаноўнага аўтара супраць публікацыі А.Дабравольскага. Але мы так і ведалі, што паважаны Сяргей Анатольевіч Паваляеў не зможа не зачапіць "Народную газету". Хоць намёкам, хоць кіўком, але, маўляў, чытачам трэба даць зразумець, што "несаўмінаўскае" выданне знаходзіцца пад нейкай асаблівай апекай. Якой? Размяшчаецца ва ўрадавым будынку? Дык у ім акрамя Савета Міністраў знаходзіцца шэраг розных ведамстваў і арганізацый, у тым ліку і не маючых ніякага дачынення да ўрада. Па-другое, мы ўжо адзначалі, што "Народная газета" размешчана ў Доме ўрада па рашэнню Прэзідыума Вярхоўнага Савета згодна з пастановай парламента рэспублікі.**

**А што датычыцца дзяржаўных датацый, то тут С.Паваляеў, мабыць, наогул не валодае канкрэтнай інфармацыяй. З дня свайго заснавання "Народная газета" толькі ў мінулым годзе звярнулася па дапамогу да дзяржавы. І ў параўнанні з некаторымі саўмінаўскімі газетамі датацыі нашаму выданню найменшыя. Дарэчы, паводле адпаведнага рашэння, урад павінен пакрываць рэдакцыі расходы, звязаныя з падрыхтоўкай і выпускам спецыяльных укладышаў з заканадаўчымі дакументамі. На жаль, за другі, трэці і чацвёрты кварталы мінулага года гэта пакуль што не зроблена. А значная частка сродкаў, якія былі выдзелены "Народнай газеце" яшчэ ў 1990 годзе на набыццё камп'ютэрнай тэхнікі, замарожана, і рэдакцыі давялося самастойна шукаць выйсце з цяжкага становішча.**

**Вось сапраўды, Сяргей Анатольевіч, не трэба намёкаў!**

*Ало, вас слухае "Народная газета"*

# Хто пабудаваў аўтамабіль у Сонечным горадзе?

Алена МАЛОЧКА, аглядальнік па пытаннях маралі і права

Тая раніца, калі ў нас была "прамая лінія" з чытачамі, пачалася са званка пра каханне — добрая прыкмета.

— Магчыма, гэта пакажацца вам нясціплым, але пра наша каханне з жонкай можна напісаць цэлы раман, — сказаў **Іван Аляксандравіч Наркевіч**, узрост — "крыху больш за пяцьдзесят". — У нас захавалася вялізная кіпа пісьмаў адно аднаму...

— Прыносьце, — ахвотна пагадзілася я. — Каханне — сенсацыя ва ўсе часы.

Сапраўды, што можа быць важнейшым у гэтым свеце, чым адносіны чалавека да чалавека?

— Дазвольце мне не прадстаўляцца, — жаночы голас у трубцы злёгку запінаўся. — Я баюся, што званок у рэдакцыю можа паўплываць на паспяховасць сына-чацвёртакласніка, вучня 80-й мінскай школы. Бо нашы дзеці перад настаўнікамі такія безабаронныя! За верш сын атрымаў "5", а па паводзінах у той дзень — "2". І вось у журнале паяўляецца агульная сярэдняя адзнака "3". Для сына гэта была такая траўма! Скажыце, у нас хто-небудзь абараняе правы дзіцяці ці рашэнне настаўніка ў класе — гэта як ісціна ў апошняй інстанцыі, абскарджанню не падлягае?

— Для пачатку, можа, варта шчыра пагаварыць з выкладчыкам? Хаця, бадай, вы, безумоўна, маеце рацыю ў тым, што пакуль што нашы школы працуюць па адной схеме: настаўнік заўсёды мае рацыю (напэўна, па аналогіі з начальнікам). Беларускі дзіцячы фонд неаднаразова ўзнімаў гэтую праблему — бо ў рэспубліцы да гэтага часу няма ні камітэта, ні міністэрства, якія б абаранялі правы дзіцяці ў грамадстве. Пакуль што, сапраўды, улада дарослых у нас бязмежная — і не толькі ў школе, але, між іншым, і ў сям'і...

— А я пазваніў без усякага канкрэтнага пытання, проста пагаварыць, — сказаў без доўгіх прадмоў **Яўген Міхайлавіч Кравец**. — Прачытаў ваш артыкул "Трагедыя манаха Пятра..." Таксама былы "афганец", таму стан "выкінутасці" з жыцця сам перажыў, ён мне добра знаёмы. Але ведаеце, што я падумаў? Слабаму чалавеку заўсёды штосьці перашкаджае: час "не той", з эпохай "не пашанцавала", нават надвор'е і тое перашкаджае... Людзі ў нас прывыклі скардзіцца — гэтак лягчэй жыць і тлумачыць свае ўласныя непрыгожыя ўчынкі. А ты паспрабуй быць сумленным, прыстойным насуперак усяму. Я цяпер разумею, пра які Апакаліпсіс ідзе гаворка ў Бібліі — пра духоўны! Смерць духу — гэта і ёсць канец свету. І мы, здаецца, стаім на мяжы гэтай катастрофы.

— Бадай, я не падзялю вашага песімізму. Чаму? Мы заклапочаны станам грамадскай маралі, але менавіта гэта і дае надзею, што мы яшчэ небезнадзейныя. Выкараскаемся, выжывем — гэта маё перакананне.

Званок ад дырэктара Наваполацкага сельгастэхнікума **Івана Паўлавіча Рамановіча**:

— Міністэрства сувязі на чарнобыльскай трагедыі бессаромна нажываецца. Мы зрабілі перавод на чарнобыльскі рахунак, і адразу ж 10 працэнтаў пайшло чыноўнікам з міністэрства. Не грошай шкада — ідэю!

— Я падтрымліваю вас, Іван Паўлавіч. Гэты рахунак дзяржава павінна была вызваліць ад усіх падаткаў.

Размова з **Васілём Васільевічам Сушыным** была, бадай, самай цяжкай. Лічу, што не маю права аб ёй змаўчаць, таму што такіх тэлефонных званкоў у нашу рэдакцыю было мноства — не толькі мне. Сутнасць іх такая: дэпутат Булахаў павінен пайсці ў адстаўку. Так, адбылася трагедыя, ад яе не застрахаваны ніхто. Але ж загінуў чалавек — удумайцеся толькі ў гэтыя словы!..

**Мікалай Аляксандравіч Булаш**, фермер са Стаўбцоўскага раёна, 52 гады:

— Майго сына школа не ўзяла на экскурсію ў Маскву, таму што ён "фермерскі".

— У гэта цяжка паверыць!

— Увіце сабе... Калгас купіў усім вучням пуцёўкі, а я ж не калгаснік, вось мой сын і застаўся "за бортам".

**Таццяна Уладзіміраўна Курацева** назвала свой тэлефонны званок у рэдакцыю "крыкам душы":

— Вы так часта наладжваеце дыскусіі аб адраджэнні беларускай мовы, як быццам мова — панацэя ад усіх бед. А па-мойму, біць у набат трэба з іншай прычыны: культура грамадства на самым нізкім узроўні... Мне, напрыклад, усё роўна, на якой мове мяне абразяць у грамадскім транспарце ці ў магазіне. І наогул людзей зараз хвалюе пытанне "як выжыць?", а не "на якой мове?.."

— Я таксама супраць істэрыі, нагнятання ў пытанні адраджэння беларускай мовы, Таццяна Уладзіміраўна. Але пагадзіцеся, што мова — гэта частка культуры грамадства, культуры, на якую вы самі спадзеяцеся, якую лічыце самай галоўнай сённяшняй нашай праблемай. На мой погляд, чалавек, які востра адчувае сваю прыналежнасць да нацыі, да яе гісторыі, ніколі не апусціцца да прымітыўнага хамства. На гэта якраз хутчэй здольны другі — "зомбі" без роду і племені...

Амаль сорак тэлефонных размоў адбылося ў мінулую пятніцу.

Ужо ў канцы майго дзяжурства ля "прамога" проваду пазваніў **Ягор Сухадольскі**, мінчанін, 6 гадоў:

— Лена, — спытаўся ён проста і строга, — ты не ведаеш, хто першы пабудаваў аўтамабіль у Сонечным горадзе?

Я не ведала. Я даўно не перачытвала гэту цудоўную кнігу Носава. Але як добра, што, нягледзячы на бурны, супярэчлівы час, на праблемы і бязладдзе дарослых, нашы дзеці па-ранейшаму чытаюць казку пра Сонечны горад...

Народная газета

*Роздум пасля падзеі*

# Гонар мундзіра

**Пакуль супрацоўнікі праваахоўных органаў не вернуць гэтаму паняццю яго высокі маральны сэнс, пакуль яны не адновяць давер людзей да сябе, цяжка будзе змагацца са злачыннасцю. Таму што праваахоўныя органы моцныя перш за ўсё падтрымкай народа.**

Андрэй ЮДЧЫЦ

Не хацелася б наганяць страху на людзей. Але хіба кожны з нас не бачыць цяперашніх жорсткіх рэалій?

Зніжаецца ўсё.

Зніжаецца вытворчасць прадукцыі ў горадзе і на вёсцы.

Зніжаецца ўзровень жыцця.

Зніжаецца нараджальнасць.

Растуць толькі цэны і злачыннасць.

Пра гэта і гаварылі ўдзельнікі прайшоўшай у мінулую суботу рэспубліканскай нарады па праблемах законнасці і правапарадку — вышэйшы камсастаў нашых праваахоўных органаў.

У мінулым годзе ў рэспубліцы зарэгістравана злачынстваў на 19 працэнтаў больш, чым у 1991-м.

Адбываецца грабеж дзяржавы, яднанне кіраўніцкіх структур з мафіяй. Раскрадаецца пакуль што ў асноўным тое, што створана ранейшымі пакаленнямі. Карупцыя раз'ядае апарат улады, ідзе сутычка насмерць злачыннага свету з гэтай самай уладай. У мінулым годзе было дванаццаць тысяч выпадкаў непадпарадкавання і супраціўлення супрацоўнікам міліцыі. І крымінагенная абстаноўка абвастраецца, яна набывае характар агульнанацыянальнага бедства.

У гісторыі Беларусі няма такога перыяду, акрамя часоў перадваенных сталінскіх рэпрэсій і вайны, калі б так груба, як цяпер, парушаліся законы, законныя правы людзей.

Злачыннасць пагражае самой дзяржаўнасці Беларусі. Ствараецца ўражанне, падкрэслівалася на нарадзе, што ўсе мы падышлі да мяжы, пераступіўшы якую замест прававога можна стварыць крымінальнае грамадства. А такому грамадству не патрэбны ні дэмакратычныя рэформы, ні свабодная рыначная эканоміка, ні нацыянальнае адраджэнне.

Прававы і маральны "беспредел" узмацняецца. Накопліваюцца прадпасылкі сацыяльнага выбуху, у многім цяжка нават прадказаць сітуацыю.

Не хацелася б наганяць страху на людзей. Але менавіта пра ўсё гэта гаварылі ўдзельнікі суботняй нарады ў Вярхоўным Савеце.

Былі і канкрэтныя прапановы. Напрыклад, павялічыць колькасць міліцыі; распрацаваць нацыянальную праграму барацьбы са злачыннасцю; стварыць міжведамасны савет праваахоўных органаў; утварыць самастойнае следчае ўпраўленне; паскорыць уладкаванне дзяржаўнай граніцы Беларусі; зацвердзіць пажыццёвае пазбаўленне волі; больш выпускаць юрыдычнай літаратуры...

Усё гэта, вядома, заслугоўвае ўвагі.

Але мне, радавому законапаслухмянаму грамадзяніну, чамусьці падумалася: пакуль супрацоўнікі праваахоўных органаў не вернуць паняццю "гонар мундзіра" яго высокі маральны сэнс, пакуль яны не адновяць давер людзей да сябе, цяжка будзе змагацца са злачыннасцю. Таму што праваахоўныя органы моцныя перш за ўсё падтрымкай народа.

Так, у нашых сілавых органах не хапае супрацоўнікаў, транспарту, тэхнікі, абсталявання.

Так, прававая база барацьбы са злачыннасцю далёка не дасканалая, фарміруецца марудна.

Так, трэба паскорыць судова-прававую рэформу.

Аднак галоўнае ўсё ж — сумленнасць кадраў, іх адданасць абавязку, прафесіяналізм.

"Грамадства наша хворае", — нярэдка чуем мы ад юрыстаў.

А праваахоўныя органы здаровыя?

Вось факты толькі самага апошняга часу...

Пры вымаганні хабару затрыманы малады супрацоўнік міліцыі.

Пры атрыманні хабару арыштаваны супрацоўнік абласной пракуратуры.

За махлярствы з золатам асуджаны в.а. народнага суддзі раёна.

Браў хабар супрацоўнік мытнай службы.

Чуткі пра такія ЧП разыходзяцца, нібы кругі па вадзе, размываюць і без таго хісткі аўтарытэт сілавых структур.

У той жа час летась амаль 40 тысяч злачынстваў засталіся нераскрытымі. Дзесяткі тысяч злачынцаў ходзяць побач з намі. Страшэнная статыстыка.

Абараняючы гонар мундзіра, некаторыя кіраўнікі праваахоўных органаў нярэдка крыўдзяцца на прэсу — не так, маўляў, пішуць пра іх журналісты, не разумеюць спецыфікі службы. Ведаем мы, дзякаваць Богу, галоўнае: людзі баяцца ўжо выходзіць на вуліцу ўвечары, а бацькі турбуюцца за сваіх дзяцей нават удзень. Вось яна, спецыфіка сучаснага жыцця!

Акрамя цвёрдых, гучных галасоў людзям у форме неабходны і цвёрдасць, рашучасць дзеянняў.

Але як расцаніць, скажам, такую сітуацыю — некаторыя віцебскія начальнікі-прадпрымальнікі нанеслі Беларусі ўрон на 50 з лішнім мільёнаў рублёў, а пракуратура завалакіціла расследаванне.

Умацоўвае гэта давер людзей да пракуратуры? Наўрад ці.

Дзе заканчваецца прадпрымальніцтва і пачынаецца злачыннасць? Людзі ў форме, вы можаце паказаць гэта наглядна законапаслухмяным грамадзянам? Вы можаце разабрацца ў пачварных формах камерцыйнага гандлю?

У мінулым годзе судамі апраўданы дзесяткі людзей, у тым ліку за нібыта здзейсненыя імі забойствы, згвалтаванні.

Будуць давяраць людзі тым следчым, якія вялі гэтыя справы? Сумняваемся.

Трынаццаць чалавек, як пазней высветлілася, былі асуджаны неабгрунтавана.

А што можа быць страшней за судовыя памылкі?

Нам гавораць: "Ведаем аб карумпіраваных сувязях, мафіёзных групоўках. Але няма заканадаўчай базы для барацьбы з імі".

Прабачце, а артыкулы КК аб махлярстве, службовым падлогу, хабарніцтве хіба не дзейнічаюць?

Дзейнічаюць, ніхто іх не адмяняў.

Між тым летась у суды не паступіла ніводнай сур'ёзнай справы па варацілах ценявой эканомікі.

Толькі трыццаць чалавек асуджаны за хабар — і то "дробненькая рыбка". Калі людзі бачаць, што ў цянёты праваахоўных органаў трапляе толькі драбяза, а хітрыя акулы разбойнага бізнесу тлусцеюць з кожным днём, дык як яны могуць падтрымліваць такія праваахоўныя органы? І масцітыя злачынцы ўжо бандамі ходзяць па гарадах і вёсках Беларусі, хоць народ, як правіла, ведае іх у твар, ведае іхнія прозвішчы. Органы ж робяць выгляд, што бандзюгаў не заўважаюць.

Аб супрацьпраўных дзеяннях некаторых кіраўнікоў, народных дэпутатаў органы пракуратуры, міліцыі, КДБ інфармуюць Саветы, іх выканаўчыя камітэты. Магчыма, так і трэба рабіць. Але чаму б такія справы, дзе бачна яўнае парушэнне законаў, не перадаваць адпаведна і ў народныя суды? Чаму не паведамляць выбаршчыкам, што іхні дэпутат — жулік у законе?

Цяжка цяпер праваахоўным органам?

Усім цяжка.

Ад спасылак на розныя "аб'ектыўныя прычыны" людзям не лягчэй.

Дарэчы, калі Вярхоўны Савет назначаў вышэйшы камсастаў на пасады, дык ніхто не гаварыў пра "аб'ектыўныя прычыны", усе абяцалі "мабілізаваць сілы".

Ніхто цяпер, як у ранейшыя гады, не заканчвае даклад традыцыйным, набіўшым аскоміну: "Разрешите заверить..."

Добра, што развітваемся з шаблонамі.

І ў той жа час закрадваюцца сумненні. Гэта што ўжо — праца без усялякіх гарантый? Ці не намёк гэта на "ратуйся, хто як можа!"?

Давер насельніцтва да органаў правапарадку, апора на насельніцтва — вось, бадай, самы правільны шлях да пералому цяперашняй небяспечнай крымінагеннай сітуацыі. Без такога даверу, без такой апоры і павелічэнне штатаў, і новыя мундзіры, і самыя скорасныя машыны, навейшыя ЭВМ не дапамогуць.

Нават там, у іх — у ЗША, Англіі, ФРГ — насельніцтва шырока прыцягваецца да аховы правапарадку.

Такой прадстаўнічай нарады па праблемах барацьбы са злачыннасцю даўно не было.

Слоў было сказана шмат — суровых, грозных і праўдзівых.

Але ці будуць за гэтым канкрэтныя справы?

Ці будуць станоўчыя зрухі?

Людзям у форме народ мае права задаць два пытанні.

Першае. Вы можаце абараніць свой народ ад злачынцаў?

Другое. Вы здольны абараніць нашую дзяржаву?

Ад адказаў на гэтыя пытанні залежыць не толькі давер народа да праваахоўных органаў. Праблема тады будзе разглядацца і шырэй, і ўвогуле прасцей: ёсць у нас улада або няма ў нас улады?

Гэта ж элементарная ісціна: зніжаецца аўтарытэт закона — зніжаецца аўтарытэт улады.

І апошняя інфармацыя для роздуму. Міністр бяспекі Расіі Баранніказ днямі заявіў: у той час, калі гаспадарча-эканамічныя сувязі ў СНД разбураюцца, прававое ўзаемадзеянне як мае быць не наладжана, замежныя спецслужбы чамусьці наладжваюць прамыя сувязі з завадатарамі злачыннага свету Расіі.

Міністр, трэба думаць, ведае, што гаворыць.

Гэтага мы хочам?

Гэтага нам яшчэ не хапала?

Пытанні, зразумела, адрасуюцца перш за ўсё людзям у форме.

*Открытое письмо*

## Наши требования — законны

**Председателю Верховного Совета Республики Беларусь т.Шушкевичу С.С.**
**Председателю Совета Министров Республики Беларусь т.Кебичу В.Ф.**

В адрес Верховного Совета и Совета Министров Республики Беларусь были направлены сотни обращений трудовых коллективов и отдельных граждан в течение сентября—октября 1992 года с просьбой положительно решить вопрос о судьбе облигаций беспроцентного вещевого займа 1990 года. Ни на одно обращение ответ не был дан. Планируемое правительством республики решение данного вопроса неприемлемо для нас, как и отмененное ранее постановление N 186.

Названные облигации распространены с ведома правительства республики в 1990 году. Оно же подписало в 1992 году соглашение с Россией, приняв обязательства по обслуживанию внутреннего долга. Поэтому правительство нашей республики должно предложить достойное решение данного вопроса.

От имени владельцев облигаций собрание представителей трудовых коллективов требует:

1. Честно выполнить обязательства по государственному целевому беспроцентному займу выпуска 1990 года в части выдачи товаров. В случае отсутствия в Республике Беларусь товаров, указанных в облигации, проиндексировать стоимость товара с учетом инфляции на момент выдачи.

2. Альтернативным вариантом для желающих видится выкуп облигаций с учетом инфляции приватизационными чеками с реальным отовариванием их государственной или муниципальной собственностью.

С целью избежания социальной напряженности в обществе просим принять цивилизованное решение вопроса с учетом норм международного права.

**От:**
**ПО "Горизонт" — В.ЯКУБЕНКО,**
**ПО "Интеграл" — Л.ТРОФИМОВА,**
**завода "Эталон" — З.НЕЧАЙ,**
**ПО "Минский тракторный завод" — А.КАТЛИНСКИЙ, Г.КРИВЧИК,**
**МППО им. Я.Коласа — Л.АГЕЕНКО, Р.ЛЕВЧЕНЯ,**
**Сбербанка — А.ЗАСТРОВСКИЙ,**
**БГПА — Н.ЛЕМБОВИЧ,**
**БАТУ — Г.ГОРИН,**
**БГУ — Е.ПЕТУШКОВА,**
**ВНИИП — А.КОТЛИНСКАЯ,**
**Первомайского райсовета — В.РОГАТКО,**
**РЖЭУ Ленинского района г.Минска — Г.БИРИЛЛО,**
**БелНИИМиЛ — Г.ДЕМСКИЙ,**
**ТТУ — В.КУЧИНСКИЙ,**
**НИИЭВМ — А.ЦИШКЕВИЧ,**
**МПОЭВМ — И.КРИЩАНОВИЧ,**
**Гостелерадиокомпании Республики Беларусь — Б.РАЙСКИЙ,**
**МЭМЗ — Н.ЦЕХАНОВИЧ,**
**Завода БелАМО им. С.И.Вавилова — Ю.МЯСИН,**
**Завода "Промсвязь" — Е.БЕЛЬСКАЯ.**

*Усміхнёмся з мастаком?*




Малюнак Алега ПАПОВА.

*Факт*

## Успех, но горький

"Как работаем, так и живем",— горько вздыхал когда-то Леонид Абалкин. И в этом был, безусловно, прав. С тех пор живем мы из года в год все хуже и хуже. А значит, и работаем не совсем хорошо.

Не исключением стал и 1992 год. В целом по республике производительность труда составила всего 93,4 процента к уровню предыдущего года. Упал этот показатель практически во всех отраслях. Ниже, чем у всех, он оказался на предприятиях Министерства хлебопродуктов — 80 процентов.

Зато отличился концерн "Беллегпром", объединяющий предприятия легкой промышленности республики. Здесь производительность труда даже возросла на 4 процента.

Впрочем, это нисколько не отразилось на магазинах. Как и прежде, одежда и обувь в большом дефиците. Имеется в виду, конечно, та, которая продается не по сумасшедшим ценам.

Владимир БОРИСОВ.

## Ау, кворум!..

Конфуз на сессии Брестского облсовета случился на второй день. После перерыва не оказалось на месте больше трети депутатского корпуса. Сессия была объявлена досрочно закрытой. Нерассмотренные восемь вопросов отложены на неопределенный срок. Разбор ситуации поручен президиуму мандатной комиссии.

Василий ВИКТОРОВИЧ.

## А каштаны на голову не падают?

**Санитарная служба Могилева запретила посадку в городе тополей.**

Пух этих деревьев, как утверждают врачи, вызывает серьезные аллергические реакции дыхательных путей, чем страдает немало могилевчан.

Кто-кто, а дворники очень довольны запретом врачей: реже доведется подметать тополиный пух на улицах и площадях города.

Николай КОМЛЕВ.

## На "коммерцию" наложили табу

**В ближайшее время Пинский торгово-коммерческий центр (бывший горпищеторг) вынужден будет сменить вывеску.**

Дело в том, что слово "коммерческий" в названии привело в смущение руководство Брестского ликеро-водочного завода — с коммерческими структурами заводчанам запрещено иметь дело. Вот и приостановили отгрузку водки в Пинск.

Сейчас срочно готовятся документы по перегистрации центра, а также другая вывеска.

Владимир СУДАКОВ.



*Наркобизнес*

# Смерть на кончике иглы

**В прошлом году за продажу наркотиков народным судом приговорена к семи годам лишения свободы М.Домбровская, которая проживала в поселке Колодищи Минского района. Домбровская — женщина преклонных лет, цыганка. На вырученные деньги построила два дома — настоящие дворцы. Но для кого? Ее взрослые дети сами стали наркоманами, а один из сыновей отбывает наказание за такое же преступление.**

С тех пор наркодельцы из Колодищей притихли, зато активизировались их "коллеги", промышляющие на Комаровском рынке в Минске...

В 1992 году наркомания продолжала распространяться семимильными шагами. За этот период только в столице органами внутренних дел раскрыто 177 подобных преступлений, что на 70 процентов больше, чем в 1991 году. На треть увеличилось количество лиц, состоящих на учете в горнаркодиспансере за употребление наркотиков. Число их составило 398. Средний возраст — 29 лет. Первенство держат мужчины — 324, женщин — 74.

По социальному положению преобладают нигде не работающие, а также имеющие "крышу" разных кооперативов. Вызывает тревогу появление в этой среде прослойки спортсменов, среди которых мастера спорта по вольной и классической борьбе, боксу, прыжкам в воду. Среди наркоманов появились вирусоносители СПИДа. Предположительно привезли его из Польши. Пристрастились к наркотикам студенты некоторых вузов. Словом, бесстрастная статистика свидетельствует о бурном развитии процесса, остановить который чрезвычайно трудно. Что это влечет за собой, понятно: черствеют души, выхолащиваются добрые чувства, родители забывают про своих детей...

Вспоминаю поломанную судьбу молодой женщины Светланы и ее дочери Настеньки, проживающих в Минске по улице Казинца, 76. Все, как обычно, началось с маленьких шалостей (пару раз уколоться), а закончилось в следственном изоляторе за преступление.

Конечно, во многом виновата и мать Светланы, которая бросила ее в 17 лет и укатила в Гомель к сожителю.

Дочь была полностью предоставлена самой себе. За прогулы отчислили из ПТУ. Начала пускать в квартиру алкоголиков для распития спиртного. Затем их сменил наркоман по имени Сергей, который и уговорил попробовать наркотики в первый раз. Дальше — больше. Постепенно в это занятие втянулись и бывшие одноклассники, которые навещали ее, пользовались квартирой для своих нужд.

Нельзя сказать, что Светлана не пыталась остановиться, но привычка брала свое. Все меньше внимания уделяла себе и дочери, перестала убирать в квартире, которая вскоре превратилась в сущий притон.

И как финал — хозяйка и друзья были задержаны милицией за хранение наркотиков и притоносодержание. Всех направили на обследование в наркологическое отделение. Всех, кроме Светланы. Учли то, что не с кем было оставить маленькую Настеньку.

Казалось, нужно остановиться! Оглянуться, подумать о своей судьбе и судьбе дочери! Но нет. Всю компанию выписали из больницы через 7 дней, и наша героиня не придумала ничего лучшего, как приехать в больницу их встречать, а затем — прямиком на Комаровский рынок, чтобы купить маковую соломку у кавказцев, и домой — скорей вкусить "кайф".

Позже они так и заявили: "Решили уколоться по последнему разу". А в это время на квартиру нагрянула милиция, и всех опять задержали. У хозяйки слезы градом покатились, она прекрасно понимала, что второй раз ее дома никто не оставит. За ребенком приехала бабушка, а Светлане пришлось переселиться в следственный изолятор.

Возможно, кто-то упрекнет: стоило ли так круто обходиться с молодой матерью? Но видели бы вы, жалостливые люди, как она воспитывает дочь! Квартира не похожа на квартиру: выбита дверь, обои лоснятся от грязи, часть их оборвана, на кухне заплесневели кастрюли с остатками пищи, откуда разбегаются тараканы, везде груды грязного белья.

В спальне на пыльном табурете лежал кусок печеночного паштета со следами детских пальцев и хвост обгрызенного маринованного карпа. Содрогнулся: неужели этим кормят маленькую Настю? Не постеснялся, спросил и получил утвердительный ответ. Не знаю, кем вырастет ребенок, но, думается, лучше, если девочка будет воспитываться без такой матери.

Еще раз перечитываю вырезки из газет за последние два-три года, в которых авторы бьют тревогу. Пестрят названия: "Драг — значит смерть", "Расплачиваться потомкам", "Война среди цветов". "Комиссар Каттани из Баку" — интервью министра внутренних дел Азербайджана. "Я не смогу удержать распространение наркотиков у себя,— пишет он, — и в конце концов буду вынужден открыть зеленую улицу и на Россию. (Подразумеваем и Беларусь)".

Но этот процесс обогнал интервью министра. Азербайджанский наркобизнес уже прописался в столице нашей республики.

Судите сами. За истекший год в городе задержано 34 жителя Азербайджана за незаконные операции с наркотиками. Из них 7 — за распространение. А в наркодиспансер в связи с употреблением наркотиков доставлены 72 человека.

Почти все преступные деяния связаны с Комаровкой — традиционное место сбора "кавказцев". Нужно сказать, что это только малая часть от происходящего на самом деле, так как наркобизнес — это преступность крайне скрытая. Дельцы проявляют высшую изощренность, пытаясь продать наркотики жертвам наркомании. Последние также не заинтересованы в контактах с милицией.

Вот еще один пример. Летом минувшего года на Комаровском рынке появился молодой мужчина из города Ленкорань. Устраиваться долго не пришлось, благо здесь давно обосновались родственники и земляки. Джигит, правда, не стал продавать цветы или арбузы, а занялся делом рискованным, но прибыльным — распространением наркотиков. Расфасовав по маленьким пакетам марихуану, прятал с укромном месте, в затем реализовывал с соблюдением всех правил конспирации. Один пакетик марихуаны — 400—500 рублей, маковая соломка дороже — 1000—1500. Но сколько веревочке ни виться, придет и ей конец. Органы внутренних дел прекратили преступную деятельность джентльмена удачи и отправили его в следственный изолятор.

Но страх на его земляков действовал недолго. Уже через неделю был задержан за перевозку наркотиков молодой парнишка, житель того же Ленкоранского района, а за последующую неделю — еще двое сбытчиков наркотиков.

На мой взгляд, многие приезжают к нам из Азербайджана, еще не познакомившись с наркотиками. Поначалу занимаются благими делами: торгуют цветами, фруктами. Но рядом всегда оказывается земляк-наркоман, с которым за компанию и начинают употреблять зелье. Чаще всего они собираются на квартирах. И, как правило, это интернациональные притоны: здесь мирно уживаются азербайджанцы, армяне, грузины и др.

Такая компания недавно была задержана по улице П.Глебки, 80. Членов ее самых разных южных национальностей арестовали. Во время задержания состоялся такой диалог:

— Не конфликтуете здесь?

— А чего нам конфликтовать? Эта война непонятно из-за чего началась и почему продолжается. Нам война не нужна.

— А на какие средства живете, ведь наркотики дорого стоят?

— Иногда помогаем землякам, продаем фрукты, цветы...

Ясно, что не все и не до конца откровенничают. У другого сбытчика поинтересовался, куда идут средства, вырученные от продажи наркотиков.

Тот ответил: "В основном на кутежи и женщин. Кое-кто хочет обустроиться в Минске, купить киоск, торговать".

В общем, приезжают сюда "погулять, белых уток пострелять", а для этого нужна солидная статья дохода.

Но весь этот криминальный элемент растлевающе действует на окружающую среду, то есть на все наше общество. Короче, наплевать им на подрастающее поколение и генофонд нашей нации. А нам? Тоже наплевать?

И все-таки, почему Беларусь стала такой "землей обетованной"? Во-первых, здесь спокойно. Во-вторых, относительная лояльность законодательства.

Лет через 10—15, когда улучшится экономическое положение, соответственно пойдут на убыль имущественные преступления. Но к этому времени вырастут дети наркоманов, родившиеся сегодня. Поэтому наркомания будет расти и расти...

Первые дни 1993 года начались с ареста еще одного распространителя наркотиков из Азербайджана. Место действия — та же Комаровка...

**Александр ГРАЧЕВ,**
**заместитель начальника отдела УВД Мингорисполкома по борьбе с наркобизнесом, майор милиции.**

*Рэпарцёр даведаўся*

## Цяжка жыць без капралактаму

**Спынілася вытворчасць па выпуску капралактаму ў гродзенскім аб'яднанні "Азот".**

Пайсці на крайнюю меру прадпрыемства прымусіла адсутнасць бензолу.

Раней яго пастаўлялі з навапалацкага аб'яднання "Нафтан" і часткова з Расіі. Аднак з-за змяншэння перапрацоўкі нафты навапалачане не могуць выконваць дагаворныя абавязацельствы, а пагадненне на пастаўку расійскага бензолу "Азот" не заключаў. Вось чаму ўжо ў студзені гродзенцы недадалі 4,2 тысячы тон капралактаму. У гэтым месяцы страты могуць павялічыцца, а там недалёка і да спынення гродзенскага аб'яднання "Хімвалакно", якое з-за недапаставак капралактаму вымушана перайсці з 15 лютага на скарочаны рабочы тыдзень.

## Мінута на пошукі новай работы

**Менш мінуты трацяць цяпер людзі, якія засталіся без работы, на пошукі новага месца ў Маскоўскім раёне Мінска.**

А дапамагае ім у гэтым інфармацыйна-вылічальная сістэма, якую наладзілі ў райвыканкаме спецыялісты Рэспубліканскага цэнтра занятасці насельніцтва. Людзям, якія шукаюць работу, дастаткова націснуць некалькі клавіш, каб на экране паявілася неабходная інфармацыя.

Пасля таго, як работа знойдзена, чалавеку застаецца атрымаць накіраванне, каб уладкавацца на прадпрыемстве. Дарэчы, Беларусь — першая дзяржава былога Саюза, якая змагла за кароткі тэрмін вырашыць праблему аператыўнага інфармацыйнага забеспячэння на рынку працы.

Такія сістэмы паявіліся ўжо практычна ва ўсіх службах занятасці насельніцтва рэспублікі. Хутка іх аб'яднаюць у адзіную рэспубліканскую інфармацыйную сетку, да якой будзе падключана каля 150 цэнтраў.

## Затрымалі газавую хмару

**Дзве грузавыя аўтамашыны з буйнымі партыямі газавай зброі, якія накіроўваліся з Германіі ў краіны Садружнасці, былі затрыманы брэсцкімі пагранічнікамі.**

Груз "Мерсэдэса", гаспадаром якога было аўтапрадпрыемства "Саўаўтабранск", стаў рэкордным сярод перавозімых цераз нашу граніцу партый газавай зброі. 360 тысяч газавых балончыкаў — такі "ўлоў" брэсцкіх мытнікаў. "Падтрымалі" калег па бізнесу і прадстаўнікі канцэрна "Белмагістраль". Імі была завезена партыя газавых пісталетаў замежнай вытворчасці з амаль што 20 тысячамі адзінак і боепрыпасаў да іх.

— Не цяжка ўявіць вынікі ў выпадку дэтанацыі спецыфічнага грузу, — сказаў начальнік прэс-цэнтра ўпраўлення пагранічных войск Валерый Малюцін. — Паводле разлікаў спецыялістаў, размер утворанага таксічнага воблака склаў бы некалькі кіламетраў.

## Не пакідаюць у бядзе

**Па запрашэнню Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі ў Мінску знаходзіцца дэлегацыя штата Нью-Йорк на чале з сенатарам кангрэса ЗША Холандам Джозефам.**

Прадстаўнікі грамадскіх арганізацый штата, а таксама кіраўнікі школы Рамапа, якая вось ужо некалькі гадоў дапамагае беларусам, якія пацярпелі ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС, ужо сустракаліся з першым намеснікам Старшыні Вярхоўнага Савета рэспублікі Вячаславам Кузняцовым.

Амерыканскія госці пацвердзілі прыхільнасць да беларускага народа і жаданне далейшага супрацоўніцтва і дапамогі не толькі на словах. На гэты раз яны прывезлі з сабой для беларускіх бальніц 67 скрынак медыкаментаў. Гэта акцыя стала пачаткам чацвёртага этапа дапамогі, а дакладней — адкрыла чацвёртую "крыніцу" неабходных для рэспублікі медыкаментаў, сабраных вучнямі і работнікамі школы Рамапа на чарговы мільён долараў.

Белінфарм.

НАРОДНАЯ ГАЗЕТА

*Гутарка ў Нью-Йорку*

# "Вельмі няпростая справа — выпрацоўваць знешнюю палітыку"

(Заканчэнне.Пачатак на 1-й стар.)

**— Вы прыехалі ў Нью-Йорк, калі Беларусь з'яўлялася адной з рэспублік СССР. І таму гаварыць пра поўную самастойнасць нашага прадстаўніцтва ў той час не даводзілася. Якую пазіцыю займае яно цяпер, калі рэспубліка будуе сваю дзяржаўнасць, калі незалежнасць абвешчана на канстытуцыйным узроўні?**

— У час майго адпачынку на Радзіме я ўжо ў адным з інтэрв'ю адзначаў, што самастойнасць афіцыйная, фармальная ў нас была. І тое, што мы ёю не карысталіся, — наша віна. Праўда, я не хацеў бы ўсё спісваць на канкрэтных кіраўнікоў, бо яны жылі і працавалі ў канкрэтных умовах. І калі б яны не лічыліся з гэтымі ўмовамі, то, даруйце, у нас былі б іншыя кіраўнікі. А я не ўпэўнены, што апошнія былі б лепшыя за тых, каго мы мелі ў сваёй гісторыі, гісторыі рэспублікі, якая была часткай Савецкага Саюза.

Цяпер іншыя ўмовы, і наша прадстаўніцтва як дыпламатычная адзінка Арганізацыі Аб'яднаных Нацый дзейнічае абсалютна самастойна. Гэта зусім не азначае, што ўсе ранейшыя дзелавыя сувязі мы адкінулі. У нас вельмі блізкія адносіны з калегамі з Украіны, Расіі. Я перш за ўсё называю іх, бо ў іх вялікі дыпламатычны вопыт, яны тут, як і мы, з часу заснавання Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. Мы рады, што да нас далучыліся новыя члены ААН. Маю на ўвазе, у прыватнасці, пастаянныя прадстаўніцтвы Казахстана, Кіргізіі, Туркменіі, Арменіі, Малдовы, Азербайджана... Часта мы галасуем па-рознаму, выступаем па-рознаму. Але адчуваем неабходнасць сустракацца, раіцца, дзяліцца інфармацыяй.

**— Над чым Вы ў апошні час больш за ўсё задумваецеся, пра што марыце?**

— Мне хацелася б, каб наша родная Беларусь хутчэй абуджалася ад залішняй заспакоенасці, ад нейкага летаргічнага сну, які прыводзіць да нацыянальнага нігілізму, каб беларус не мірыўся з тым, што ўсе будуць стаяць навідавоку, а яму і цеснага куточка хопіць. Калі я думаю пра духоўную сталасць нацыі, то лічу, што абсалютна кожны з нас павінен ведаць аб'ектыўную гісторыю сваёй краіны і даражыць ёю, а не тым, што нам калісьці навязалі. Ці ж гэта нармальна, калі пра генералісімуса Суворава ў нас ведаюць больш, чым, скажам, пра Кастуся Каліноўскага?..

**— Генадзь Мікалаевіч, нацыянальнае адраджэнне нельга адрываць ад паступовага ўваходжання Беларусі ў міжнародную супольнасць. Выхад нашай рэспублікі на сусветную арэну — гэта ўжо не бутафорыя, а рэальнасць. І вось хацелася б у сувязі з гэтым запытаць у Вас: ці адпавядаюць гэтаму дзеянні нашых дзяржаўных органаў, іх кіраўнікоў, асабліва ў адносінах, скажам, да нашага прадстаўніцтва, якое працуе тут, у Нью-Йорку?**

— Пытанне гэта, на мой погляд, умяшчае некалькі аспектаў. Скажу адразу, што вельмі няпростая справа выпрацоўваць знешнюю палітыку. Мы, на мой погляд, знаходзімся ў пачатку гэтага шляху. Фактычна наша рэспубліка раней не займалася знешнепалітычнай дзейнасцю. І вось мы заявілі, і гэта правільна, што мы роўныя і самастойныя, і на нас абрынулася, я падкрэсліваю гэта слова, прызнанне. Адначасова абрынуліся і турботы. Для таго ж, каб, напрыклад, адкрыць у сябе пасольства, трэба вельмі многа мець — я маю на ўвазе не толькі жаданне, не толькі сталасць палітычную, але і матэрыяльную базу: памяшканні, сувязь, сервіс і г.д.

І яшчэ адно. Калі, скажам, у нас пэўны час будзе працаваць пасольства Італіі, а наша пасольства ў Рыме ўсё не адчыняецца, узнікае пытанне: у чым справа? Атрымліваюцца нераўназначныя адносіны. Таму трэба адразу ж турбавацца пра адкрыццё пасольства "ў адказ". А гэта і вялікая валюта, і высокакваліфікаваныя кадры, якіх не хапае.

Таму я лічу, што на нейкім этапе мы дапусцілі памылку ў тым, што захацелі адразу мець усё. Не заўсёды ў нас прасочваецца і стратэгічная лінія. То мы кідаемся ў адзін рэгіён, то гэтак жа актыўна — у другі, без неабходнай "ураўнаважанасці".

І яшчэ адно чыста асабістае адчуванне: некаторыя нашы кіраўнікі не маюць смаку да знешнепалітычнай дзейнасці. Прывяду такі прыклад. Калі я прыязджаў мінулым летам у адпачынак, то пастараўся сустрэцца з многімі адказнымі ўрадаўцамі рэспублікі. Усе гэтыя сустрэчы былі не па іх ініцыятыве. А аднойчы мне наогул сказалі, што сустрэча не адбудзецца, бо на прыём ужо запісана многа людзей. Разумееце — запісаны былі тыя, з кім кіраўнік сустракаецца калі не кожны дзень, то кожны тыдзень, калі не кожны тыдзень, то кожны месяц. А я ж, прадстаўнік Беларусі пры Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, бываю ў рэспубліцы раз у год. І калі гэта не ўлічваецца, дык у мяне складваецца ўражанне, што пытанні, якія датычаць нашага прадстаўніцтва ў Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, ды і ўсёй дзейнасці ААН, не надта цікавяць таго-сяго ў высокіх кабінетах.

**— У сувязі з гэтым, Генадзь Мікалаевіч, такое пытанне: а як кіраўнікі іншых краін адносяцца да сваіх прадстаўніцтваў, якія знаходзяцца ў Нью-Йорку? Як яны ім дапамагаюць, як разам выпрацоўваюць галоўную лінію?..**

— Я спецыяльна такімі даследаваннямі не займаўся. Думаю, па-рознаму. Але дакладна ведаю адно: калі едзе на сесію Генеральнай Асамблеі дэлегацыя краіны, то яна перад гэтым атрымлівае ад парламента ці ўрада ясныя дырэктывы і ўказанні, як галасаваць па тых ці іншых пунктах парадку дня, як дзейнічаць у тых альбо іншых абставінах. Мы да такой работы яшчэ не прывыклі. І таму часта даводзіцца літаральна за некалькі гадзін да галасавання, пры значнай розніцы ў часе паміж Нью-Йоркам і Мінскам, званіць і ў спешцы высвятляць няпростыя пытанні.

І яшчэ адно: мы не навучыліся прымаць як рэальнасць тое, што ўсе ў Арганізацыі Аб'яднаных Нацый роўныя і памятаць трэба аб праблемах усіх. Каб увесь свет займаўся толькі нашымі праблемамі — такога не будзе, не трэба быць наіўнымі людзьмі.

Мяне наогул уражвае логіка тых, хто лічыць, што свет абавязаны вырашаць нашы эканамічныя цяжкасці. Чаму? Ісці нам насустрач, дапамагаць нам — гэта зразумела. Але рабіць за нас?! Не свет нам навязаў той лад, у якім мы жылі, які выбралі (як выбралі — іншая справа), і мы самі павінны разгрэбці тое, што нарабілі.

**— Генадзь Мікалаевіч, чытачам "Народнай газеты" цікава будзе ведаць, у якіх умовах працуе і жыве калектыў нашага прадстаўніцтва пры ААН? Ад гэтага ж у многім залежаць і вынікі дзейнасці дыпламатычнай місіі...**

— Што тут можна сказаць? Вы самі бачылі, што ўмовы ў нас не самыя лепшыя. Хоць мы і сцвярджаем, што Беларусь самастойная дзяржава, але прадстаўніцтва наша размяшчаецца ў будынку, рэальным гаспадаром якога з'яўляецца Расія. Мы не маем сваёй спецыяльнай сувязі з Мінскам, што ўскладняе аператыўнае вырашэнне вострых дыпламатычных пытанняў.

Усе праблемы, звязаныя з бытавым абслугоўваннем, таксама вырашаем з дапамогай расійскіх калег.

Далей. Раней было пастаяннае прадстаўніцтва Савецкага Саюза, у ім налічвалася паўтары сотні чалавек. Цяпер гэта пастаяннае прадстаўніцтва Расіі. Вы думаеце, колькасць працаўнікоў скарацілася? Ні ў якім разе. Поле дзейнасці ў іх стала вузейшым, але сейбітаў колькі было, столькі і засталося. У нас жа поле дзейнасці стала невымерна шырэйшым, а сейбітаў як было дзесяць чалавек, так і засталося. Гэта ўвесь калектыў — ад пастаяннага прадстаўніка да прыбіральшчыцы. А мы ж не Расія, якая мае даўні аўтарытэт, даўнія сувязі. Нам яшчэ трэба завязваць новыя сувязі, заваёўваць сталы аўтарытэт. І ўсё гэта патрабуе кадраў, часу, сродкаў. Безумоўна, час цяжкі, сродкаў не хапае. Але мяне шакіруе, калі раздаюцца галасы, што, маўляў, а ці трэба наогул нам Арганізацыя Аб'яднаных Нацый? Што і казаць, дзіўныя меркаванні, бо Арганізацыя Аб'яднаных Нацый — гэта сям'я цывілізаваных народаў свету. І калі мы хочам быць у гэтай сям'і, то якое можа быць пытанне. Калі ж не хочам быць у гэтай сям'і, то тут можа быць толькі два тлумачэнні: альбо мы не дараслі да таго, каб быць у гэтай сям'і, альбо нас не цікавіць развіццё міжнароднага супольніцтва.

**— Пастаяннае прадстаўніцтва рэспублікі ў Нью-Йорку — гэта, я разумею, не толькі дыпламатычны яе астравок, але і духоўная крыніца...**

— Так. Мы з'яўляемся крынічкай інфармацыі, беларускасці і для нашых землякоў, і для нашых амерыканскіх сяброў, і для многіх калег. Толькі, на жаль, вельмі вузенькая і неглыбокая яна ў чыста матэрыяльным сэнсе. Акрамя невялічкай бібліятэчкі, якую прыслаў Саюз пісьменнікаў (дзякуй маім даўнім добрым сябрам), і карцін, якія падарыў Уладзімір Іванавіч Стальмашонак, у нас "духоўнага" нічога няма. Няма нават нацыянальных сувеніраў...

**— Баліць душа ў Бураўкіна-палітыка, як баліць душа і ў Бураўкіна-дыпламата. А вось што мог бы сказаць Бураўкін-паэт?**

— Я не скажу, што, знаходзячыся на Манхэтэне, згубіў сябе як паэта. Хоць вершы ў мяне пішуцца лепш дома, а не на чужыне. Але лічу, што гэтыя два з лішнім гады, якія пражыў за акіянамі, не прапалі дарэмна. Яны нешта больш акрэслена праяснілі, нешта абвастрылі, нешта разбудзілі. Безумоўна, усё гэта адгукнецца і ў творчасці. Нешта пад гарачымі ўражаннямі ўжо і напісана. Некаторыя з такіх вершаў дома, безумоўна, не з'явіліся б.

*Я ведаю, мне дома будзе горш,*
*Я ведаю, мне дома будзе горка.*
*Але ірвуся з сытага Нью-Йорка*
*У Мінск, дзе гастраноміі на грош.*

Усё, што я тут пішу, не спяшаюся друкаваць. Тое-сёе мяне самога не задавальняе; нешта яшчэ не выкрышталізавалася. Для гэтага, паўтараю, мне патрэбен душэўны спакой.

**— Адчуваецца, што, нягледзячы на высокі ранг Надзвычайнага Пасла, вас усё ж цягне дахаты, на Радзіму, на Бацькаўшчыну...**

— Безумоўна, туга па Беларусі адчуваецца. У мяне і раней былі замежныя камандзіроўкі, але гэтая найбольш доўгая. І я зразумеў, што ў маім узросце, з маёй душою адрывацца ад дому на многія гады нельга...

**P.S.** Калі на магнітафонную стужку запісваліся гэтыя словы, я падумаў: якая цяжкая служба ў нашых дыпламатаў! Вы можаце ўявіць сабе штодзённае знаходжанне ў невялічкім кабінеце без акон? А менавіта такі службовы пакой у нашага пастаяннага прадстаўніка. Гэта — каб чужыя вушы не змаглі праслухоўваць размовы. Дарэчы, каб патэлефанаваць, яму трэба ісці ў спецыяльную кабіну. А пераступіў парог — і ты ўжо ў кватэры. Здараецца, што тыднямі не ўдаецца пакідаць цесныя апартаменты прадстаўніцтва... Пасля такога роздуму захацелася павесці гаворку крыху ў іншым накірунку.

**— Генадзь Мікалаевіч, хацелася б задаць некалькі пытанняў, якія, можа, не зусім па тэме нашай гаворкі, але ж цікава ведаць вашы меркаванні...**

— Калі ласка, паспрабую адказаць на любое пытанне.

**— Вы трэці год знаходзіцеся ў ЗША. Што, на ваш погляд, найбольш характэрна для амерыканскага ладу жыцця?**

— Першае — прагматычнасць і дзелавітасць. У гэтым ёсць шмат добрага, хоць іншы раз складваецца ўражанне, што прагматычнасць пераходзіць у сваю процілегласць, бесчалавечнасць...

—Другое, на што я хацеў бы звярнуць асаблівую ўвагу, гэта адчуванне дзяржавы. Я маю на ўвазе і законапаслушэнства грамадзян, і сілу ўлад. Любая свабода асобы можа выяўляцца толькі да той мяжы, да якой дазваляе закон.

І трэцяе. У амерыканцаў вельмі высока развіта адчуванне гонару за сваю краіну.

**— Генадзь Мікалаевіч, некалькі месяцаў таму ў беларускіх сродках масавай інфармацыі з'явілася не адна інфармацыя наконт ад'езду ў ЗША прэзідэнта Акадэміі навук рэспублікі Уладзіміра Платонава. Усе ведаюць, што на першых пачатках ён тут меў тэлефонную сувязь з вамі. Скажыце, дзе зараз гэты вядомы вучоны?**

— Уладзімір Пятровіч Платонаў — мой зямляк і блізкі таварыш, а таму, калі ён прыехаў у Амерыку, то адразу выйшаў на сувязь, і не толькі тэлефонную. У Злучаных Штатах ён з усёй сям'ёй: жонкай, дочкамі. Займаецца прафесіянальнай справай — чытае лекцыі па матэматыцы, павінен быў закончыць кнігу і здаць у выдавецтва. Дзе ён цяпер — не ведаю, таму што ён пераехаў у іншы горад, і пакуль што няма ніякай весткі.

**— Вы падтрымліваеце цесную сувязь з беларускай эміграцыяй. Як, на ваш погляд, надалей павінны ўмацоўвацца сувязі паміж Бацькаўшчынай і тым колам людзей, якія по волі лёсу апынуліся тут, за акіянам, некалькі дзесяткаў гадоў таму назад альбо зусім нядаўна?**

— Я лічу, што калі мы хочам, а мы, безумоўна, хочам быць краінай разумнай, цывілізаванай, то кожны беларус, дзе б ён ні быў, як бы ні склаўся ягоны лёс, павінен адчуваць, што ён сын Беларусі. І многае тут залежыць ад самой Беларусі. Рэспубліка не павінна забываць пра сваіх сыноў і дачок...

**— Генадзь Мікалаевіч, мы вядзём з Вамі гаворку за некалькі тысяч кіламетраў ад Радзімы. Тут, у Нью-Йорку, Вы, мабыць, вельмі востра адчуваеце рэакцыю сусветнай грамадскасці на падзеі, якія адбываюцца на Беларусі. Скажыце, калі ласка, які водгук мела рашэнне нашага парламента адносна адхілення рэферэндуму?**

— Перш за ўсё я хацеў бы сказаць, што рэферэндум — гэта такая форма выяўлення народнай волі, якая сама па сабе, акрамя падтрымкі і сімпатыі, выклікаць ні ў кога нічога іншага не можа.

Безумоўна, калі б быў праведзены рэферэндум, то гэта было б яшчэ адным сведчаннем сур'ёзнай дэмакратызацыі нашага жыцця.

Амаль ва ўсіх рэспубліках былога Савецкага Саюза, уключаючы сярэднеазіяцкія, у той ці іншай форме рэферэндумы праводзіліся. І Беларусь аказалася амаль адзінай рэспублікай, дзе ні ў якой форме рэферэндум не праводзіўся. Многіх гэта дзівіць.

Як сведчанне невысокага прафесіяналізму нашага парламента было ўспрынята тут і тое, што Вярхоўны Савет адмяніў рашэнне Цэнтральнай выбарчай камісіі, якая з'яўляецца яго рабочым органам. Калі Вярхоўны Савет зацвердзіў рабочы орган, які працуе непрафесіянальна, з парушэннем законаў, дык што ж гэта за адносіны Вярхоўнага Савета да стварэння такога важнага органа? Калі ж ён зацвердзіў орган дастаткова падрыхтаваны і разумны, які не знайшоў відавочных парушэнняў, дык нельга ж адмяняць яго рашэнні.

Пра фармуліроўку. Так, яна няўклюдная і недасканалая, але ў Вярхоўнага Савета было права яе ўдакладніць і паказаць, як трэба гэта рабіць. Больш таго, у Вярхоўнага Савета было права ўнесці іншыя пытанні, можа нават больш важныя. Словам, я паўтараю толькі некаторыя пытанні, якія ўзнікалі ў замежных аналітыкаў пасля катэгарычнага рашэння Вярхоўнага Савета наконт немэтазгоднасці правядзення рэферэндуму.

Калі гаварыць пра маю асабістую пазіцыю, то я быў прыхільнікам рэферэндуму, дапускаючы і тое, што будзе перафармуліравана пытанне, і тое, што могуць быць унесены іншыя пытанні, і тое, што рэферэндум можа быць кансультатыўны. Але мне хацелася, мне вельмі хацелася ведаць думку маіх землякоў, якія стаміліся ад цяжкага жыцця, стаміліся ад балбатні дэмагогаў, ад безадказнасці ўлад.

**— Дзякуй, Генадзь Мікалаевіч, за змястоўную гутарку.**

— Найлепшыя пажаданні чытачам "Народнай газеты", прывітанне нашай Радзіме.

*Шляхі Адраджэння*

## І "Тутэйшыя" становяцца лаўрэатамі

Іван РУБІН
Фота Міхася ЖЫЛІНСКАГА

Чорныя анёлы над Беларуссю... Сапраўды, як праспяваў Мікіта Зносак, лёс "яблычка" чакаў маладую Беларусь.

"Мне сняцца сны аб Беларусі", — выгукнуў Янка Здольнік, увасабляючы ў многім Купалу і яго ідэі. "Ніякіх нават сноў!" — такі прысуд Маўзера Здольніку. А менавіта з маўзерам і ў такой жа скуранцы з зоркай Льва Давыдавіча ўпершыню ўбачылі тады мінчане Мяснікяна (Мяснікова). Толькі адзінкі пазналі яго цяпер на сцэне ў вобразе Камісара. Пазналі — і перажагналіся ў фінале. Дальбог жа — праўда. Але цяпер высока лунаў бел-чырвона-белы сцяг. Надзея?!

Толькі з сённяшняй вышыні дайшла да нас купалаўская трагедыя, камедыя, фарс. Ой, як спалохаліся тады мяснікяны Купалавых слоў: "Беларусь — для беларусаў!" Так, для беларусаў таксама, а не для нейкіх тутэйшых, мяснікянаў, усходніх і заходніх вучоных. Людзі ў шлемах з чырвонымі зоркамі так напалохаліся, што іхні ідэалагічны цэрбер так забараніў геніяльны твор, што ён задыхаў сцэнай пры дапамозе рэжысёра Мікалая Пінігіна і выдатных купалаўскіх акцёраў толькі прахалоднай восенню 1990 года. Задыхаў, каб жыць, каб стаць падзеяй і "Тутэйшых" вывесці ў людзі ажно на Дзяржаўную прэмію.

Праўда, трэба сказаць, што спектакль пабываў у купалаўскім доме (на сцэне тэатра) аднойчы ў 1982 годзе. Так-так, было такое. "Тутэйшых" прывёз з Магілёва Валерый Маслюк. Але тагачасныя цэрберы-мяснікяны так перапалохаліся, што Маслюка перавялі ў Мінск.

"Скуль, якога вы роду?" — пыталіся з усмешачкай на блішчастых тварах "усенароднавядомыя" Іваны Іванавічы з ЦК КПБ. Не маглі ж яны прапусціць, каб не паглядзець такое відовішча хоць бы з-за лысіны самога першага. Не маглі яны дазволіць, каб смех Купалы пачула ўся Беларусь. Народ, напэўна б, разабраўся, хто ёсць зноскі без роду і племені, хто ёсць насты пабягунскія са сваімі падкіндэсамі.

Але не ўсё могуць і ідэалагічныя цэрберы. Прыйшлі "Тутэйшыя" да тутэйшых, каб разам людзьмі звацца, і не толькі сніць сны аб Беларусі, але і адраджаць, будаваць маладую, новую Беларусь, дзе ўжо не будзе тутэйшых. Яны, неўміручыя, купалаўскія, будуць прыходзіць да нас толькі са сцэны.



*Свецкая хроніка*

## Як "мядовы месяц" мог стаць горкім для брата Данчыка

**У адзін з тых дзён, калі ў гонар Багдана Андрусішына (Данчыка) беларускія маладзёжныя суполкі праводзілі вечары, родны брат барда ледзь не загінуў у Ціхім акіяне. Юрась, якому ўжо за трыццаць сем, толькі-толькі ажаніўся на амерыканцы італьянскага паходжання. Адразу пасля вяселля ў Нью-Йорку купіў тур і разам з каханай паплыў да берагоў Мексікі. У час атракцыёнаў падвяла тэхніка, і ён нечакана апынуўся за бортам судна ў халоднай вадзе. Заблытаўшыся ў снасцях, ледзь не захлынуўся. На шчасце, дапамагла прафесійная вывучка, якую атрымаў у перыяд службы ў ваенна-марской пяхоце ЗША.**

Калі пра здарэнне даведаліся Андрусішыны-старэйшыя, не спалі цэлую ноч.

Дарэчы, 33-гадовы і нежанаты Багдан Данчык на вяселлі роднага брата не быў. Як і на вяселлі стрыечнага брата, які таксама нядаўна ажаніўся. Бард жыве і працуе цяпер у Германіі на радыёстанцыі "Свабода", і двойчы злятаць у Нью-Йорк не было магчымасці, а аддаваць перавагу аднаму з братоў ён, як зазначыла бабуля Данчыка, палічыў неэтычным крокам.

(Уласн. інф.)

# ЗАМЕЖЖА
* ІТАР-ТАСС * НАРОДНАЯ ГАЗЕТА *

*Пульс дня*

### Першы, але важны крок

**Міністр абароны Расійскай Федэрацыі генерал арміі Павел Грачоў знаходзіцца ў Кувейце з двухдзённым візітам.**

У заяве для друку кувейцкі міністр указаў, што візіт П.Грачова з'яўляецца першым важным крокам у напрамку пашырэння кувейцка-расійскага супрацоўніцтва.

### Сумесныя намаганні па барацьбе з тэрарызмам

**Расійскія і германскія спецслужбы будуць цесна супрацоўнічаць у пытаннях барацьбы з міжнародным наркабізнесам і тэрарызмам.**

Пра гэта стала вядома пасля завяршэння першага раунда дырэктара службы знешняй разведкі Расіі Яўгена Прымакова, які знаходзіцца ў ФРГ з візітам, з каардынатарам дзейнасці германскіх спецслужбаў, дзяржаўным міністрам у ведамстве федэральнага канцлера Берндам Шмітбаўэрам.

### Зноў пра Хонекера

**Былы кіраўнік ГДР Эрых Хонекер не абавязаны даваць паказанні як сведка на працэсе супраць былых членаў нацыянальнага савета абароны ГДР, які працягваецца ў Берліне.**

Такое рашэнне было аб'яўлена на адбыўшымся чарговым пасяджэнні 27-й крымінальнай палаты берлінскага зямельнага суда, якая разглядае справу Хайнца Кеслера, Фрыца Штрэлеца і Ханса Альбрэхта.

### У "Адзідас" новы ўладальнік

**Змяніўся ўладальнік у вядомай на ўвесь свет германскай фірмы "Адзідас", асноўнай прадукцыяй якой з'яўляецца спартыўны абутак.**

Буйны французскі бізнесмен Бернар Тапі, які займае зараз ва ўрадзе сацыялістаў пост міністра па справах гарадоў, прадаў за 2 млрд. франкаў (615 млн. марак ФРГ) сваю долю ўдзелу ў фірме, якая складала 78 працэнтаў. Паводле звестак друку, ён набыў акцыі "Адзідаса" летам 1990 года за 1,6 млрд. франкаў. Як гаворыцца ў паведамленні для друку, распаўсюджаным "Адзідасам", у якасці пакупнікоў у здзелцы ўдзельнічалі дзве буйнейшыя французскія страхавыя кампаніі ЮАП і АЖФ, якія належаць дзяржаве, нацыяналізаваны банк "Крэдзі Ліоне", а таксама шэраг прыватных інвестараў.

### Мітэран падтрымаў Клінтана

**Прэзідэнт ЗША Біл Клінтан меў тэлефонную размову з прэзідэнтам Францыі Франсуа Мітэранам, у ходзе якой абмяркоўвалася новая амерыканская палітыка ў адносінах да Босніі і Герцагавіны.**

"Прэзідэнт Мітэран вітаў падыход ЗША" да ўрэгулявання ў рэгіёне, заявіў афіцыйны прадстаўнік Белага дома Джордж Стэфанапулас.

## Лягушка предохраняет от инсультов

**Антрополог Кэтрин Мильтон из Калифорнийского университета в Беркли посвятила свою жизнь изучению быта и нравов бразильских индейцев, но прославилась она не в области антропологии, а в фармакологии. И все это произошло из-за того, что в ходе своих антропологических исследований она натолкнулась на существование "магической лягушки".**

Пять лет назад Кэтрин Мильтон в течение двух месяцев жила среди индейцев племени мейоруна в тропических лесах бассейна Амазонки. Там она стала свидетельницей необычного обряда. Начиналось все с того, что воины племени отлавливали небольших зеленых лягушек и, покалывая их специальными палочками, вызывали у них слизистые выделения. Полученный таким образом секрет лягушки воины тщательно собирали, высушивали и размельчали в порошок в целях использования при совершении обряда "охотничья магия".

В чем заключается обряд? Охотники смешивают порошок со слюной и превращают его в кашицу. Затем они наносят на руки и грудь порезы ножом и втирают эту кашицу в свежие раны. Попадая таким образом в кровоток, секрет лягушки вызывает весьма болезненную реакцию: у участников обряда начинается рвота, их качает из стороны в сторону, а через полчаса они впадают в беспамятство и спят до утра.

Но проснувшись на следующий день, рассказывает Мильтон, они испытывают небывалый прилив сил. Охотники говорят, что после того, как они "приняли лягушку", им ничего не стоит целый день без устали гоняться за дичью, а стрелы их луков всегда бьют без промаха.

Кэтрин Мильтон привезла с Амазонки образец высушенного секрета лягушки и передала его в Национальный институт здравоохранения в Бетесде (штат Мэриленд), где он был подвергнут тщательному изучению. Результаты этих исследований оказались многообещающими для синтезирования новых препаратов по борьбе с рядом опасных заболеваний. Как заявил руководитель лаборатории биоорганической химии этого института Джон Дейли, из секрета лягушки удалось выделить новый вид пептидов, которые, взаимодействуя с аденозиновой системой, служат предохранению организма от спазмов и инсультов. Предстоит еще большая работа, говорит Джон Дейли, но мы рассчитываем на получение нового препарата по борьбе с этими заболеваниями, а также, возможно, и со старческим слабоумием.

Результаты совместной работы Мильтон и Дейли опубликованы в "Записках Национальной академии наук". "Героиня" этой работы известна в науке как филломедуза двухцветная. Она — ярко-зеленого цвета с желтыми пятнами на лапках. "Это самая красивая лягушка в мире", — утверждает Кэтрин Мильтон.

Геннадий ШИШКИН.

## Вперед, женщины!

**Таиланд.**

**Правительство Чуана Ликпая предприняло радикальный шаг по пути ликвидации дискриминации женщин, назначив губернатором провинции 53-летнюю Чаратри Тирипат. Тирипат — архитектор по образованию — курировала вопросы планирования в столичном муниципалитете.**

Одновременно правительство отменило решение 15-летней давности, запрещавшее женщинам занимать ответственные должности в государственных учреждениях. Разъясняя решение кабинета министров, которое довольно неоднозначно встречено в официальном истеблишменте, премьер-министр Чуан Ликпай заявил, что его правительство будет всемерно содействовать повышению роли женщин в обществе. Отныне, сказал премьер, пол не будет служить определяющим фактором при официальных назначениях. Главное, что будет учитываться при подборе кадров, — их способности и деловые качества, подчеркнул он.

Виктор ЗАЦЕПИН.

## ...А в морковном соке он был бы дороже

**Южнокитайская провинция Хайнань подписала контракт с Новгородским промышленно-торговым объединением на поставку в Россию 212 вагонов мангового сока в обмен на пассажирский авиалайнер "Ил-76".**

Как сообщает агентство Синьхуа, остров Хайнань уже не первый раз расплачивается с российскими партнерами "сладкой валютой" — летом прошлого года провинция выменяла 40 тонн химических удобрений на 10 тонн сока.

Манговый сок, говорится в сообщении, пользуется большим спросом в Москве и Санкт-Петербурге, и недавно российские специалисты побывали в провинции Хайнань, где провели переговоры о дальнейшем экономическом и торговом сотрудничестве.

Владимир ОРЕШИН.

